*Леанід*
*Дранько-Майсюк*

# Цацачная крама

*Кніжка*
*для вялікіх і малых*

УДК
ББК
Д

*Бібліятэчка часопіса "Дзеяслоў" – Выпуск 6.*
*Заснаваная ў 2006 годзе.*

Д72 **Дранько-Майсюк Л.**
Цацачная крама.: кніжка для дарослых і малых. / Леанід Дранько-Майсюк. – Мн.: "Медисонт", 2008. – 128 с.– (Бібліятэчка часопіса "Дзеяслоў" – Вып. 6.)

ISBN

У гэтай кніжцы не высокая, а шырокая паэзія; шырокая – значыць, усім зразумелая...
Аўтар упэўнены: весялосць – нацыянальнае багацце беларусаў, таму ў "Цацачнай краме" шмат смеху, жартаў, дасціпнасці, радаснага настрою, салёных слоўцаў, народных выразаў, часам – горкай іроніі.

**УДК**
**ББК**

ISBN

*Ад аўтара*

*Аднойчы ў дзяцінстве, калі ў маім Давыд-Гарадку шалела бурлівае веснавое разводдзе, увечары я стаяў на Царкоўнай гары і глядзеў, як паволі разбураецца драўляны гарынскі мост.*

*Па ім яшчэ паспела праехаць калгасная машына, з кузава якой раптам выляцеў белы пе-вень і сеў на маставую ферму.*

*І ў гэту ж хвіліну пблі не вытрымалі, і мост абрынуўся ў чорную ваду...*

*Усе тады падумалі, што певень загіне.*

*Аднак жа здараюцца дзівосы.*

*На другі дзень з іншымі дзецьмі я прыбег на Шкодзіну кручу, на якую занесла абломкі маставой фермы, і ўбачыў на іх белага пеўня.*

*Жывога!*

*Мой успамін невыпадковы.*

*Певень, як вядома, вельмі змястоўны сімвал — спевам ён упрыгожыў Евангелле і кожнае раніцы нястомна аддзяляе таямніцу ночы ад таямніцы дня.*

*Для мяне ж асабіста на ўсё жыццё стаўся талісманам...*

*Жыхар казак і загадак, варажбы і ўсялякіх уяўленняў; гаспадар вясковых і местачковых куратнікаў; урэшце, сонцавы харашун — певень усеабдымны вобраз майго дзяцінства!*

*Мусіць жа, не вельмі перабольшваю, кажучы:*

*усеабдымны...*

*Зрэшты, мяркуйце самі.*

*Паводле ўсходняга календара, я нарадзіўся ў год Пеўня, як, дарэчы, і мой сын Васіль.*

*Калі мне сніліся пеўні, то ў сне (казала мне маці) я шчасліва ўсміхаўся.*

*Памятаю, салодкая лагода апанавала мяне, калі прачытаў, як герой Кузьмы Чорнага Пархвен Катлубовіч пабіўся з п'яным пеўнем.*

*Калі ж я браўся за малёўку, то часта вымалёўваў таго белага певуна на маставой ферме...*

*Мусіць, гэтак міжвольна выяўлялася ў маёй душы тэма ўласнага ратунку.*

*Мае бацькі, Васіль і Люба мяне частавалі цукеркамі і пернікамі, якія мелі форму пеўневай галавы...*

*Аднойчы ж падаравалі фарфоравага пеўніка і сказалі, што купілі яго ў цацачнай краме...*

*Цацачная крама — гэтыя словы замілавалі!..*

*Цацачная крама — вось тое сэнсавае сугучча, з якога й нарадзілася кніжка, у якой майму задаволенаму Пеўню не сумна сярод іншых ля-лечных птушак, звяроў і жывёлак.*

*Я пачаў гэту кніжку ў БССР, а завяршыў у Рэспубліцы Беларусь — пад бой курантаў на адноўленай менскай ратушы.*

*І апошняе.*

*На гэтай кніжцы ляжыць святло казачнай прозы Уладзіміра Ягоўдзіка і казачнай музыкі Зміцера Вайцюшкевіча.*

## Асобы



Гаспадар

Галодны Воўк



Баязлівы Барсук



Разумная Варона



Злы Сабака





Няшчасны Казёл

Задаволены Певень





Незалежны Зубр

Рахманы Конь



Памяркоўны Мядзведзь



Два Мядзведзікі

Дурны Баран





Жыццярадасны Асёл

Палахлівы Заяц





Заклапочаны Кот

Гуляшчая Кошка





Добрая Мышка

Мудрая Кошка





Зладзеяваты Ліс

«Абычная» Свіння





Шчаслівы Бабёр

Хітрая Сава





Свойская Качка

Дзікая Качка





Крыўдлівы Вожык

Прыязная Вавёрка





Спраўная Сарока

Стары Алень





Угаворлівая Жаба

Смярдзючы Тхор





Мяса-шкуркавы Трус

Жаласлівы Верабей





Патрыятычны Бусел

Я гандлюю цацкамі.

# ГАСПАДАР

Пахвалюся: чалавек я гаспадарны, мой гандаль дае мне прыбытак, а калі зусім сказаць шчыра, то прыбытак гэты добры, таму сваё гандлярства люблю.

Маё правіла: не маўчы — балбачы!

Маючы краму, нельга маўчаць!

Маючы краму, трэба ўсё зрабіць, каб зацягнуць пакупніка да свайго прылаўка і галаву пакупніку трэба разумна задурыць, каб хоць што-небудзь у цябе купіў.

Зварот да пакупніка — вялікае мастацтва.

Усё добра ў гэтым звароце, акрамя вады ў роце: здалёку — зазыўны крык, зблізку — далікатны голас, а то і шэпт...

А лепей жа за ўсё і здалёку, і зблізку — прачулае спяванне...

## Уступная песенька Гаспадара

Я — цацачны гандляр,
Уласнік гэтай крамы,
І цацкі — мой тавар
Найпрыгажэйшы самы!
Я не служу казне!
І што мне тут хавацца:
Мы сыдземся ў цане —
Давайце таргавацца!

Цацкі ж не абы-якія:
Не гліняныя — пустыя;
Не драўляныя — глухія...
Цацкі ўсе як ёсць — жывыя!

Без лішняй гаманы
Забаву проста з моста
Умеюць даць яны
І дзецям, і дарослым.
У цацак (знаю я!)

Не бзік які ці бздура,
А ў кожнае свая
Адметная натура.

Цацкі ж не абы-якія:
Не гліняныя — пустыя;
Не драўляныя — глухія...
Цацкі ўсе як ёсць — жывыя!

Хто з кім гуляе век
Няведама адвеку:
Ці з цацкай чалавек?
Ці цацка з чалавекам?
Таму звяроў маіх
І птушак не мінайце,
А для дзяцей сваіх
І для сябе купляйце!

Цацкі ж не абы-якія:
Не гліняныя — пустыя;
Не драўляныя — глухія...
Цацкі ўсе як ёсць — жывыя!

## ГАСПАДАРЫ

усе жывыя і сапраўды любая з іх мае свой характар, сваю адметную натуру.

Але галоўнае тое, што кожная мая цацка ведае, што трэба рабіць, як сябе паводзіць, як трэба жыць, каго слухацца, а каго не, каму ў вочы глядзець, а каго й зусім не бачыць, на што наракаць і як наракаць, каму скардзіцца, дзе сядзець нішкам, а дзе ўздымаць гвалт, чаму і каму ў жыцці радавацца, што прасіць і ў каго прасіць...

Вось, да слова сказаць, Воўк.  
Ваўкі, як вядома, заўсёды галодныя.  
Мой Воўк галодны таксама.  
Галодны ж заўсёды просіць...  
Што галодны просіць?  
Маеце рацыю!  
Галодны заўсёды просіць есці!

## Песенька

## галоднага Воўка

Выйшлі ўсе мае запасы,
І наўме адно,
Што ні мяса, ні каўбасаў
Я не еў даўно.

Я — не шкодны Воўк;
Я — галодны Воўк...
У-у-у!

Пашкадуйце небараку,—
Плачу, як ягня,
З'еў бы я вала, сабаку,
З'еў бы я каня.

Я — не шкодны Воўк;
Я — галодны Воўк...
У-у-у!

Гола нашая камора,

Апусцеў наш хлеў...
Шліце ежу мне з-за мора,
Каб не спруцянеў!

Я — не шкодны Воўк;
Я — галодны Воўк...
У-у-у!

Бачыце, спадары і спадарыні,

# ГАСПАДАР

самотны, пяшчотны, лагодны, няшкодны, на ўсё згодны, можна сказаць нават — родны!

Гэта пра іншага плешчуць языкамі: казаў воўк, што мак тоўк, нікога не чапаў, — баран паверыў і прапаў...

Пра майго ж так нельга пляскбць, бо ён на вас воўкам не глядзіць, хоць і галодны.

Ён зараз у тым самаадчуванні, пра якое звычайна кажуць: хоць воўкам вый!

Купіце яго, накарміце і займееце сабе і сваім дзеткам добрую ўцеху.

А пакуль вы мяркуеце купляць або не купляць майго Воўка, мушу вам нагадаць, што гандаль — справа рухомая, хуткая, марудлівасці не любіць, таму не тапчу мух, а даю рэкламу на іншую цацку.

Вось яна — баязлівы Барсук.

Ён вельмі-вельмі баязлівы!

Гэта якраз яму і свой цень страшны!

Аднак жа са сваёй баязлівасці мой Барсук вывеў цікавую і надта ж пазнавальную філасофію.

## Песенька баязлівага Барсука

І навошта вытыркацца?!
І навошта гэты гам?!
Лепей сціхнуць і схавацца,
Калі што якое там...

І няцяжка зразумець,
І вядома ўсім даўно,
Калі хочаш уцалець,—
Каменем ідзі на дно!

Як накінуцца згрызоты,—
Пра сябе спачатку дбай;
За дубовыя вароты
Лезь і духу не ўціскай!

І няцяжка зразумець,
І вядома ўсім даўно,

Калі хочаш уцалець,—
Каменем ідзі на дно!

А як вылезеш ты здуру,
Біцца з некім паляціш,
Так і ведай — здымуць шкуру
І адпусцяць, як стаіш.

І няцяжка зразумець,
І вядома ўсім даўно,
Калі хочаш уцалець,—
Каменем ідзі на дно!



# ГАСПАДАР

Вось такі мой Барсук.

Абачлівы мой Барсук.

Страшэнны баязлівец, але філосаф!

Мушу вам сказаць, што лепей быць баязлівым філосафам, чым смелым дурнем!

Уся бяда ў нашым жыцці ад гэтых самых смелых дурняў!

Таму купляйце майго Барсука, ён вас багата чаму навучыць.

Як і мая Варона...

Падобна ж на тое, што да нас з вамі, спадары і спадарыні, так і не ўшалопалі, што варона — птушка з розумам, таму пра няцямлівага ўсё яшчэ вярзуць — дурная варона, а збянтэжанага, напрыклад, усё яшчэ раўняюць з мокрай варо-

най, а пра якога-небудзь разяву гавораць: гэта той, які варон страляе...

Класік жа наш увогуле думаў, думаў і лупянуў: дурны мужык, як варона!

Як на мой лад, то трэ было наадварот накрэсліць: разумны мужык, як варона!

Далібог, гэта разумная птушка!

Хто-хто, а яна жыць умее.

Паслухайце, калі ласка!

## Песенька
## разумнай Вароны

Я — разумная Варона,
Лепшай птушкі не бывае;
Я без картак і талонаў
Хлеб надзённы здабываю.

Добра ведаю я — кар-р-р! —
Дзе рубель, а дзе даляр.

Я — разумная, а трэба,
Калі страх які адчую,
Дзеля выгады і хлеба
Перакінуся ў дурную.

Добра ведаю я — кар-р-р! —
Дзе гандляр, а дзе махляр.

Як не маю свежаніны,
Дык мярцвячынай жыўлюся;
Сто гадоў, як дзень адзіны,
Пражыву і не стамлюся.

Добра ведаю я — кар-р-р! —
Дзе таварыш, дзе спадар.



# ГАСПАДАР

«Нашто дарма хваліцца свету!» — вучыў Янка Купала.

І напраўду, што тут лішне казаць?!

Але скажу: каб я быў не гандляром, а пакупніком, то адразу ж купіў бы гэту Варону.

Бачыце, як яна сябе выхваліла:

Я — разумная, а трэба,
Калі страх які адчую,
Дзеля выгады і хлеба
Перакінуся ў дурную...

Хіба ж гэта не розум?!

Гэта палітычны розум!

А да розуму, асабліва палітычнага, патрэбна яшчэ і злосць.

Сабачая злосць!

У маёй краме ёсцека Сабака.

Ён вельмі злы.

## Песенька
## злога Сабакі

Не сказаць, что я — дурны,
Проста злы без краю;
Я хапаю за штаны
Тых, каго не знаю.
Як гаворыцца людзьмі:
«Хіба кот, каб яўкаць?!
Падлу хлебам не кармі,
Толькі дай пагаўкаць...»

І на лаўцы, і пад лаўкай,
З будкі, а ці будкі ўзбоч —
Дзень і ноч люблю я гаўкаць,
Горла дзерці — дзень і ноч!

Гаўкаць трэба ведаць як!
Гаўканне — дар Божы...
Можна гаўкаць і за так,
Можна і за грошы;

Можна гаўкаць, вам скажу,
Пры любой уладзе,
Хоць і горла, і душу
На ланцуг пасадзяць.

І на лаўцы, і пад лаўкай,
З будкі, а ці будкі ўзбоч —
Дзень і ноч люблю я гаўкаць,
Горла дзерці — дзень і ноч!

У сабак жыццё — турма,
Самае цяжкое.
Кожны знае: горш няма
За жыццё такое.
Каб не адурнець зусім,
Дадзена мне баўка
І на сметніку пустым
Не маўчаць, а гаўкаць.

І на лаўцы, і пад лаўкай,
З будкі, а ці будкі ўзбоч —
Дзень і ноч люблю я гаўкаць,
Горла дзерці — дзень і ноч!

# ГАСПАДАР

Чыстая праўда: дурны сабака і на гаспадара брэша!

Мой на гаспадара не брэша, бо ён, як вы самі чулі, не дурны, а проста злы.

Як той казаў, любіш мяне, любі і майго сабаку, таму доўга вас упрошваць не буду.

Майго вы і без упрошванняў набудзеце, бо ён усё ж Сабака.

Сабаку рэклама не патрэбна!

Рэклама патрэбна Казлу, асабліва, калі ён няшчасны.

Скажу для яснасці: ёсць проста казлы, а ёсць казлы няшчасныя!

Проста казлы — агідныя істоты, а казлы няшчасныя — амаль як людзі.

Іх трэба шкадаваць.

І мой Казёл няшчасны, і яго трэба шкадаваць — то-бок, яго трэба купіць!

Купіць майго Казла — клопат прыемны, гэта ж не казлы, выбачайце, драць...



## Песенька
## няшчаснага Казла

Я не быў Казлом адвеку,
Быў я светлы, як анёл,
А сустрэўся чалавеку
І пачуў, што я — Казёл!

Што Казёл я і не болей,
Што такі цярплю я здзек,
Што ў мяне такая доля —
Вінаваты чалавек!

Каб з дабром — яно б нічога,
Але ўсё часцей са злом
Ад малога да старога
Ўсе завуць мяне Казлом.

Што Казёл я і не болей,

Што такі цярплю я здзек,
Што ў мяне такая доля —
Вінаваты чалавек!

З агарода выганяюць
І навязваюць на кол;
Да стала не дапускаюць,
І таму скачу на стол!

Што Казёл я і не болей,
Што такі цярплю я здзек,
Што ў мяне такая доля —
Вінаваты чалавек!

# ГАСПАДАР

Майго Казла трэба супакоіць...

О, супакаенне — самая першая лекарская справа!

Супакойваючы, можна й самому супакоіцца.

Часам так здараецца, што спакой больш патрэбен не таму, каго супакойваюць, а таму, хто супакойвае.

Так-так, вельмі часта так бывае, што спакой больш патрэбен не хвораму, а лекару.

Дык вось, хочаце супакоіцца — купіце Казла!

Я вельмі ўсцешуся, калі разам з няшчасным Казлом вы возьмеце ў мяне і задаволенага Пеўня.

Певень мой сапраўды задаволены.

Задаволены ўсім, бо мае багата курэй і мала мазгоў...



## Песенька задаволенага Пеўня

Я без клопату жыву
І грызні сабачай;
Нагінаю галаву,
Як зярнятка ўбачу.
Грэбень мой, як спелы мак;
На хвасце — узоры...
Я тапчу курэй усмак
І не знаю зморы.

Мудрасць простая мая:
Будуць куры — буду й я!

Я — гуляка-харашун,
Ці з бядой мне знацца?!

А як з'явіцца каршун,
Можна і схавацца.
У куратніку я — цар,
Чорта не баюся,
А як зойдзе гаспадар —
Да курэй тулюся.

Мудрасць простая мая:
Будуць куры — буду й я!

Курак маладых стае,
І валлё найсыта...
Толькі той, хто лынды б'е,
Першы ля карыта.
І хоць, ведама, мазгоў
Вельмі мала маю,
А жывецца — будзь здароў! —
Словам, ані дбаю...

Мудрасць простая мая:
Будуць куры — буду й я!

# ГАСПАДАР

Гэта добра, вельмі добра, калі ў сваім куратніку ты — цар!

Некаму ж і ў куратніку трэба.

На ўсіх жа Белавежскае пушчы не хопіць.

Пра Белавежжу згадаў я невыпадкова.

Ёсць у мяне Зубр, а зубр (кожнае дзіця ведае!) — гаспадар Белавежжы, а то і ўсёй Беларусі!

Для Бел фрыкі леў...



## Песенька незалежнага Зубра

Дзе іду,— там і дарога...
У забранай старане
Не чапаю я нікога,
Не чапайце й вы мяне.

Не падлазьце мне пад рогі
І не снoўдайце наўкол,—
Я ж вам не баран убогі!
Я ж вам не рахманы вол!

Як лячу,— гудзе прастора;
Стану,— водгулле пяе...
З капытоў не валіць змора,
Я адужваю яе.

Не цвяліце, не завіце
На духмяны свой папас;
Без мяне жылі... й жывіце,
Пражыву і я без вас.

# ГАСПАДАР

Можна доўга зайздросціць зубрынай моцы і свабодзе: зубра ў аглоблі не запражэш!

А вось каня можна.

На тое ён і конь — як заўсёды, рахманы і цярплівы; як заўсёды, пакорлівы і цягавіты.

Праўда, маюцца коні і натурыстыя, якія ў хамут б'юць.

Аднак жа хвацкая пуга і натурыстага хутка супакойвае, становіць у аглоблі.

Зрэшты, гэта не ганьба — быць у аглоблях.

Ганьба, калі цябе ставіць у аглоблі не гаспадар, а злодзей...

## Песенька рахманага Каня

Я — рахманы і цярплівы,
Бо жыву на Беларусі;
Я аднолькава шчаслівы
І на ворыве, і ў лузе.



І вязу я, і ару я,
І цягну, і валаку;
Нібы чорны вол, працую,
Капытамі пыл таўку.

У санях, вазках, калёсах
Я пад пугаю заўжды;
У аглоблях і атосах
Не спыняю век хады!

Так у хамуце і мыле
Прамінецца жытка ўся...
Даць бы сена не забылі;
Не забылі б даць аўса.

# ГАСПАДАР

Памятаеце прымаўку: быў конь, ды з'ездзіўся?!

Гэта не пра майго Каня.

Мой ніколі не з'ездіцца, бо нікуды не рвецца.

Калі ж і вы хочаце не з'ездіцца, дык таксама ж нікуды не рвіцеся.

Тупайце сабе паціху, памалу варушыце пятамі, і за гэта будзе вам і сена, будзе і авёс...

Тупаць паціху — то-бок, не вылазіць са скуры, не выстаўляцца, не выхваляцца, не дамагацца, не патрабаваць і заўсёды трымацца сярэдзіны; быць добранькім, згаворлівым, падатлівым, лагодным, патульным, прыемным, добразычлівым, паблажлівым, спагадлівым і

хутка прыстасоўвацца да іншых.

Памалу варушыць пятамі — гэта значыць, быць памяркоўным...

Падыму гаворку вышэй: Беларусь абавязкова ўваскрэсне (застанецца Беларуссю!), дзякуючы менавіта сваёй памяркоўнасці.

Памяркоўнасць — гэта беларуская форма хрысціянства!

Гэта нацыянальна-выратоўны стыль паводзін, згодна якога ў Давыд-Гарадку пяюць:

І папа люблю,
І ксяндза люблю,
І рббіну, як папросіць,
Рыбкі налаўлю.

О, памяркоўнасць — наш ратунак і, магчыма, не дай Божа, наша...

Што?!.

Пра гэта найлепш ведае мой Мядзведзь...

## Песенька памяркоўнага Мядзведзя

Памяркоўны я Мядзведзь,
Разам з Беларуссю
Лапу (каб не спруцянець!)
Я смакчу зіму ўсю.
А як Бог дае вясну,
Гэтаксама ж разам
Прачынаюся ад сну
Я з усім Калгасам.

Я люблю сваю выгоду —
Елкі, хвоі і дубы,
Але ўсё ж за лыжку мёду
Я прадамся ў цырк любы.

Што тут надта выдурняцца,
Як у лапы запячэ,
Гэткім зоймешся цыркацтвам,

Аб якім не сніў яшчэ!
Выкінеш такія штукі,
Танец вычаўпеш такі, —
Ажно здзівяцца прыдуркі
І разумныя дзядзькі.



Я люблю сваю выгоду —
Елкі, хвоі і дубы,
Але ўсё ж за лыжку мёду
Я прадамся ў цырк любы.

Цяжка мне з жыццём такім
Тут, на Беларусі,
Але розумам сваім
Жыць я не бяруся.
Хто мне вушка пашкрабе
(Чэсны ці нячэсны!) —
Я й аддам яму... сябе
І бярлог свой цесны.

Я люблю сваю выгоду —
Елкі, хвоі і дубы,
Але ўсё ж за лыжку мёду
Я прадамся ў цырк любы.

# ГАСПАДАР

У бочцы мёду можна ўтапіцца, а за лыжку мёду — прадацца.

Як той казаў, дзе мёд, там і мядзведзь.

А мы скажам, дзе Мядзведзь, там і Мядзведзікі!

Варта й Мядзведзікаў паслухаць.

Іх у мяне два, даволі пацешныя істоты...

Так і хочацца іх купіць!

## Песенька
## двух Мядзведзікаў

Два Мядзведзікі спаць захацелі,
Пачалі рыхтавацца да сну —
Пад сасной першы выбраў пасцелю,
А другі дык палез на сасну.

Ой-ёй-ёй, пад страхою начною
Першы спіць, а другі не засне!
Ай-яй-яй, трэба спаць пад сасною,
Бо ніяк не заснеш на сасне.

Першы сніў пад сасною маліну,
Бо разумным Мядзведзікам быў,
А другі, абхапіўшы галіну,
Спаць не спаў і нічога не сніў.

Ой-ёй-ёй, пад страхою начною
Першы спіць, а другі не засне!
Ай-яй-яй, трэба спаць пад сасною,

Бо ніяк не заснеш на сасне.
І каб сон пра маліну прысніўся,
І каб хто не спалохаў яго,
Неразумны Мядзведзік спусціўся
Да разумнага сябра свайго.

Ой-ёй-ёй, пад страхою начною
Першы спіць, а другі не засне!
Ай-яй-яй, трэба спаць пад сасною,
Бо ніяк не заснеш на сасне.

# ГАСПАДАР

Ад маліны і ад мёду ажно соладка ў роце.

Мядзведзікі — тыя ж дзеці! — любяць салодкае.

А вось Барана каля мёду не ўбачыш.

Увогуле Баран не прадае сябе — ні за бочку, ні за лыжку.

Чаму?

Ну, вядома, чаму — бо дурны...

## Песенька дурнога Барана

Што дурныя бараны —
Гэта кожны знае.
Я ж Баран — зусім дурны,
Галава пустая.

Я дурнейшы (і нашмат!)
Барана за тога,
Байку напісаў Кандрат
Шчыра пра якога...

Жытка горкая мая!
Па ўсім свеце пройдзеш,
А дурнейшага, чым я,
Барана не знойдзеш...

Як пракляты, працаваў
У калгасным раю
Ды нічога не прыдбаў,
Толькі рогі маю!

Мне пакінуты падман,
А не розум ясны,
Бо не проста я Баран,
А Баран — калгасны.



# ГАСПАДАР

Так-так, спадарове, гэты Баран нашмат дурнейшы за таго дыпламаванага барана, пра якога Кандрат Крапіва склаў сваю геніяльную байку.

Аднак жа такая поўная дурасць, такая глыбокая дурнота — гэта, паверце мне, таксама розум.

Розум наадварот!

Здараецца такое, як і ўсё астатняе, ад жыцця...

Таму не бойцеся!

Купляйце майго дурнога Барана, чытайце байку пра дыпламаванага барана і гуляйцеся ў розум наадварот.

Неблагі, скажу я вам, занятак...

Баран мой, як вы заўважылі, даволі сумная істота, а вось Асёл — цалкам жыццярадасная жывёліна...

## Песенька жыццярадаснага Асла

Я — Асёл і жыць гатоў
У любым саюзе;
Я вітаю ўсіх аслоў
Роднай Беларусі!

І хоць розум наш малы,
І дурныя самі —
Заставаймася, аслы,
Мы заўжды аслямі!

Бо ў аслінай чарадзе,
Дзе і чорны — рыжы,
Толькі ў ёй і больш нідзе
Здольныя мы выжыць!

І з братамі за мяжой,
Што аслы таксама,
Будзем жыць адной душой
І адной праграмай...

Узаб’емся на пачын
Якаснай будоўлі
І збудуйма хлеў адзін
Для сваёй гадоўлі,—

Каб саюз наш расквітнеў
Моцны і асліны...
Як адзіны будзе хлеў,
Будзе й гной адзіны!





# ГАСПАДАР

«Ўсё саюзы ў беларусаў...» — прароча ўздыхаў колісь Янка Купала.

А я вам свой план выкладу: не кліч асла да стала, бо наробіць абы-чаго і наязыкуе таксама абы-чаго!

Аднак жа майго клікаць можна, бо мой асёл далікатны.

Ён толькі аб радасным языкуе, а радаснае простым людзям падабаецца.

А от Заяц на радасць аніяк не ўзаб'еццa, бо вельмі ж палахлівы...

Вядома, сёння вы набудзеце ў мяне Асла.

Аднак жа і пра Зайца не забудзьце!

Адшкадуйце й на яго свае зайчыкі!



## Песенька палахлівага Зайца

Я прызнаюся, скажу
(Слухаць будзеце калі вы!) –
Перад кожным я дрыжу,
Бо я Заяц палахлівы.

Я дрыжу перад ваўком,
Перад лісам і сабакам,
Паляўнічым, лесніком;
Перад кожным гукам, гакам...

Страх спакою не дае
І ў крыві маёй не тоне;
Вочы бедныя мае,
Лапы бедныя мае,
Вушы бедныя мае
Дзень і ноч напагатове!

Ад раптоўнае бяды,
Што раптоўная заўсёды,
Я скачу абы-куды
Праз кусты ці агароды...

Так, глытаючы слязу,
І скачу па Беларусі, —
Дзе капусткі пагрызу,
Дзе травою пераб'юся.

І на долю — не ды не —
Я пажалюся такую...
Вы паслухалі мяне?!
Ну, то дзякуй, — вам скажу я.

# ГАСПАДАР

Якое жыццё, такая й песня!

Калі нас прыпрэ, то мы не тое, скавычучы, выводзім, так што асабліва не будзем з гэтага Зайца кепікі строіць.

З Ката ж таксама.

Яго не ў мяшку прадаю, таму самі добра бачыце які ён.

Харашун!

Праўда, заклапочаны.

Заклапочанасць ягоная вельмі даўняя, крыўдлівая, зразумелая і з'едлівая.

Вось паслухайце...

## Песенька заклапочанага Ката

Чалавекам быць — не штука...
Трэсці порткі жыватом
Невялікая навука,
А вялікая навука,
Я скажу вам, быць катом!

Бо не проста голым задам
Бліскаць долу зноў і зноў,
Пад дажджом ці снегападам
Вымарцоўваць без штаноў!

Чалавеку (кожны знае!)
Спаць мякчэй і жыць лягчэй,
З харчам клопату не мае...
Маю я — лаўлю мышэй!

І даводзіцца даволі,
Каб узбіцца на абед,
Мне дубець у завуголлі,
Драпаць кіпцямі загнет;

Спіну выгінаць і муркаць,
Сліну лішнюю каўтаць
І ў адпетага прыдурка
Ведаць: што яму лізаць!

Да яды (усё праз голад!)
Пруся з яўканнем наўпрост...
З печы скокну, хоць праз голаў,
І не паламаю хвост.

Хоць такую маю радасць,
Заклапочана-худы,
Што магу скакаць і падаць,
І ніякае бяды!

Чалавек, скажу дарэчы,
Ці ён п’е, а ці не п’е,
Калі грымнецца ўжо з печы —
Ср...ку так і разаб’е!

# ГАСПАДАР

Кот мой хоць і заклапочаны, але на язык спрытны.

І Кошка мая на язык спрытная, а клопату ў яе — дык аніякага!

Раскошніца!

Як і любая іншая кошка, яна таксама вочкі жмурыць, а кіпцюры вострыць.

Аднак жа толькі яна ведае, што трэба рабіць, каб адначасова было і ўлежна, і ўежна, і пацешна!

Не Кошка, а праўдзівая Наста Пабягунская!

## Песенька гуляшчай Кошкі

Усё ў маім жыцці ажур,
Усё ў маім жыцці, як трэба,
Усё ў маім жыцці — мур, мур —
Смятанкаю плыве да неба.

Я лішне не кручу хвастом
І ані дбаю анікалькі,
Бо ведаю: з якім катом,
Калі і як, і дзе, і колькі!

Мой гаспадар жыве, як цар,
А гаспадыня, як царыца,
Яму ліжу заўсёды твар,
А ёй дык т о е, ч ы м садзіцца.

Я лішне не кручу хвастом
І ані дбаю аніколькі,
Бо ведаю: з якім катом,
Калі і як, і дзе, і колькі!

І вочы бліскаюць, і поўсць...
І скрозь я чуюся, як дома!
І ўсё як ёсць, усё як ёсць
Мне падабаецца, вядома.

Я лішне не кручу хвастом
І ані дбаю аніколькі,
Бо ведаю: з якім катом,
Калі і як, і дзе, і колькі!



# ГАСПАДАР

Ну, як такую не купіць?!

Усе грошыкі можна аддаць за адзін толькі яе прыпеўчык:

Я лішне не кручу хвастом
І ані дбаю аніколькі,
Бо ведаю: з якім катом...

Тут ясна пра якога Ката гаворка!

Пра майго, заклапочанага, таму кожнаму раю браць адразу і Кошку, і Ката...

А каб жа каціная тэма была і даўжэйшая, і весялейшая, то хай прагучыць яшчэ і песенька пра добрую Мышку і мудрую Кошку.

Кошкі ж не толькі гуляшчымі бываюць — мудрымі таксама.

# Песенька Гаспадара пра добрую Мышку і мудрую Кошку

Бегла Мышка па дарожцы,
Падарунак несла Кошцы —
Не смятану, не аладкі,
А пшанічныя зярняткі.

Кошка есці іх не ўмела,
Мышку з’есці захацела,
А пасля паразважала —
З Мышкай той пасябравала.

І пра ўчынак мудрай Кошкі
Хай падумаюць хоць трошкі
І дарослыя, і дзеці
Перад тым, як нешта з’есці.





# ГАСПАДАР

Клёку ў ягамосцяў, мяркую, не бракуе, каб гэта, добра падумаўшы, датумкаць, што ў мяне адразу браць, а што пасля.

Адразу можна добрую Мышку і мудрую Кошку.

Адразу ж можна браць і зладзеяватага Ліса!

І напраўду ж ён — зладзеяваты!

Любіць красці.

Цікава, што гэты руды хітрун зараз прапяе ў сваё апраўданне...

## Песенька зладзеяватага Ліса

«Злодзей!..» — кажуць людзі.
Дураць галаву!
Я не проста злодзей,—
Проста т а к жыву.



Куры ёсць і качкі...
Валачы, цягай...
Еш сабе да ўс...ачкі,
Толькі зубы май.

Май душу пустую
І не згінеш, не...
Гіне — хто працуе,
Хто хрыбціну гне.

Пры такой уладзе
(Што мне тут брахаць!) —
Той жыве, хто крадзе,
Так што, браце, крадзь.

# ГАСПАДАР

Во які Ліс!

Такія ў вінаватых не ходзяць!

Такіх ніякі суд не засудзіць!

Вывернуўся мой Ліс, як той кажух!

Зух, што й казаць...

Пра Свінню так не скажаш, бо Свіння — не Ліс.

Праўда, люблю я і Свінню сваю, асабліва яе мову...

О, мая «абычная» Свіння «прэкрасна разгаварывает і очань чудесна паёт на абычнам языке!

І паёт не зра!»

## Песенька «абычнай» Свінні

Пасматрыцця на міня —
Я абычная Свіння;
Еслі вы пачулі: плясь!
Эта я упала ў гразь.

І ляжу сібе, ляжу,
Што та там сібе чашу
І ня чуўствую бяды,
Бо ў карыце ёсць яды.

Кабану кажу аб тым:
«Ты ня будзь кабан дурным,
Еслі ёсць ешчо яда,
То ня рыпайся, балда!»



# ГАСПАДАР

Свінні любяць лячыцца гразямі, вось таму мая Свіння й прызналася: «...еслі вы пачулі: плясь! Эта я упала ў гразь...»

Якуб Колас аднойчы заўважыў:

«...свіння — такая жывёла, што не можа ад зямлі адрывацца...»

Не ведаю, што думаў пясняр пра мову маёй Свінні, пра яе «абычны язык, на каторам ана прэкрасна разгаварывает і очань чудесна паёт, і паёт не зра...», аднак жа, не сакрэт, — такая мова пышна квітнее.

Штодня адусюль чуецца:

...очань часта случаюцца недастачы з гаручым, але нічаво — начальства абяшчала памоч...

...у этам сложнам маменце мы дзелаем крышу без дзенех...

...я очань гарачая жэншчына і я нашчот чысцяшчых срадствоў, а вы, мужчына, прайдзіця на паўцела ўпярод...

...саздалі валаабразуюшчыя раёны і завязлі туды дзействуюшчае вешчаство...

...ваабшчэ ашчуціў, но не пачуўстваваў, што пруцант ахвата часных дамоў вывазам мусара састаўляець 30 пруцантаў ат обшчага чысла чысляшчыхся чорнарабочымі...

...шчасліў быў упячатліцца таварышчаскім упечатленнем, што набраны намі тэмп у развіцці дарожнае сяці прадалжаяцца, а чатыры раёны работаюць у павышаным ражыме функцыяніравання...

...дарагія жэншчыны, праздраўляю вас з восьмым марца...

...дарагія мужчыны, ваша чэснасць нужна чуткім жэншчынам...

...гавара паацечаскі, я часта абшчался з прыродаю...

Вось такая мова ў маёй «абычнай» Свінні.

Калі вы купіце яе, вядома ж, я падзякую вам, і Свіння мая падзякуе вам таксама.

Яна скажа: «Ісключыцельна благадару і жалаю вам... усяго такога!»

Што гэта такое — «усё такое»? — думайце самі.

Шмат я тут наказаў пра Свінню, таму пра шчаслівага Бабра паведамлю зусім коратка: ён — шчаслівы...

## Песенька шчаслівага Бабра

Я ўжо тым усцешаны,
Аж пускаю сліну,—
Што грызу алешыну,
Што грызу асіну;

Рэчкай, азярынаю
Плёхаю, ныраю
І не толькі сліну я —
І струмень пускаю!

З берага да берага
Столькі маю волі!
І вады нямерана,
І яды даволі!

Вось такая жытка ўся —
Слаўныя парадкі!
То ў нару зашыюся,
То плыву да хаткі...

Словам, добры маю хлеб
І жыву па-царску.
Трапіць на каўнер яшчэ б
Добраму начальству!



# ГАСПАДАР

Трапіць на каўнер добраму начальству — неблагое жаданне!

Яно абавязкова спраўдзіцца!

Мой Бабёр можа сліну ці струмень пусціць сабе на пацеху.

А слязіну?

Не, ніводную не пусціць!

Бо ён шчаслівы...

Шчасце ж, як вядома, у кожнага сваё — у Бабра бабрынае, а ў хітрай Савы — савінае...

## Песенька хітрай Савы

Я — Сава, з вачыма галава,
Ноч люблю, бо ноччу бачу;
Не люблю я дзень, бо я ж Сава!
Рагачу як што, як што дык плачу...



Ноч вяртае зрок, дае яду;
Ноччу галаву сваю не збочу;
Розную брыду і не брыду
Я хапаю ноччу аж дасхочу!

Мне ніякіх не патрэбна змен
І другое не патрэбна чэсці,
Шчасце маё простае, як хрэн,—
Спаць удзень, а ўночы есці!

# ГАСПАДАР

Сапраўды, шчасце ў маёй хітрай Савы простае, бо для яе галоўнае, каб дзень у ноч перабег.

Перабяжыць, перакоціцца святло ў цемру — і ўсё добра!

Тым, хто любіць не паспаць, файна будзе з маёй Савой і пры свечцы, і пры зорцы...

А ці шчаслівая свойская Качка, га?

О, гэтай жывецца яшчэ лепей, чым Саве...

Праўду кажу, і таму, калі нешта вам замінае купіць Саву, тады купляйце свойскую Качку!

# Песенька свойскай Качкі

Я — свойская, кубло ў адрыне;
Адрына ж у канцы двара...
Жыву я з ласкі гаспадыні
І клопату гаспадара.



Я кожнай раніцы за брамку
Калі іду, калі бягу;
У дзірку, шчыліну і ямку
Засунуць дзюбу я магу.

Люблю наесціся дасыта,
Як і наплёхацца ў гразі...
Вярнуся ў двор, а там — карыта!
Ну, як яшчэ тут не з'ясі!

Мне хораша ў вадзе стаячай,
Люблю й  праточную ваду,
А сама лепш, калі мой качар
Мяне патопча на віду!

# ГАСПАДАР

Жыць з ласкі гаспадыні і клопату гаспадара — гэта ж ніякай бяды не ведаць!

Мець зімою кубло ў адрыне — гэта ж не хавацца ў афрыканскім чароце!

І зноў жа — ніхто цябе дубальтоўкай не пужае!

Бо свойская Качка — не дзікая!

А вось як жывецца дзікай Качцы, — зараз пачуем...

## Песенька
## дзікай Качкі

Я — дзікая, жыву на волі
І скрозь на волі я жыву:
Лячу ў гары, іду па доле
Ці па вадзе сабе плыву.

Чарвяк любы і кожны вусень,
І рыбка кожная — мая!
Я летую на Беларусі,
Зімую ж у Егіпце я.

Хапае на Дняпры і Пцічы,
І на Гарыні мне ўсяго...
Але страляе паляўнічы,
Сабака гаўкае яго.

І пахне порахам палёным,
І шрот ляціць ва ўсе канцы,

І робіцца жыццё шалёным,
Яшчэ імгненне — і капцы!

Калі спакою ані знаку,
То т а к ірвуся я ўцякаць,
Што паляўнічага й сабаку
Магу ад страху абас...аць!

# ГАСПАДАР

Вось такое яно — жыццё на волі!

Напраўду ж, хапае ўсяго.

Усё часцей людзі са стрэльбамі ходзяць.

І тут са страху можна і самому абрабіцца, і абрабіць каго заўгодна...

Купіце маю дзікую Качку.

Яна вам у родным балоце самую глухую схованку пакажа!

А калі трэба, то пакажа нават і дарогу на Егіпет.

Яна не крыўдлівая, а вось Вожык мой крыўдлівы.

Бачыце, яму людзі не ўнаравілі...

## Песенька
## крыўдлівага Вожыка

Я прашу вас людзі: годзе!
Не зважайце, вас малю,
Што ці ў садзе, ці ў гародзе
Жаб і яшчарак лаўлю;

Што, пад стрэшкаю калючак
Маючы надзейны схоў,
Я палюю на гадзючак
І на розных там вужоў;

Што яшчэ я добра ўмею
Лісце на сабе цягаць...
Годзе несці ахінею!
До ўжо, людзі, вам брахаць!

У душы нашу гаркоту,
Сэрца — як у палыне:
За ніжэйшую істоту
Вы прымаеце мяне!

Я ж, — калі казаць па праўдзе, —
Сілу маю за сабой:
Засядаць магу ў палаце!
Радай кіраваць любой!

Не ўважайце гэта дзівам
Ці праявай смехаўя:
Як ушыюся ў штаны вам,
Дык адчуеце — хто я!

# Гаспадар

Вожык усё можа!

Таму заклік мой такі: людзі, шануйце вожыкаў!

А майго, крыўдлівага, доўга не думаючы, купляйце!

Шкоды ад яго ніякай — наадварот, выгода будзе, бо даляраў дваццаць, а то й больш, на сваіх калючках прынясе вам, як піць даць.

Не верыце?!

А вы яго пусціце папоўзаць ля казіно ці якой-небудзь дарагой рэстараннай веранды і хутка ўцяміце, што не ўсё яму адно лісце ў нару цягаць!

Дарэчы кажучы, мой Вожык сябруе з прыязнай Вавёркай, якая таксама здатная падмацаваць і ваш настрой, і вашу гаспадарку.



## Песенька прыязнай Вавёркі і Вожыка

— Добра мне, Вавёрцы,
У дупле сядзець!
— Лепей жыць у норцы
І калючкі мець!

— Я люблю арэшкі
Лускаць на зямлю!
— Без ніякай спешкі
Я гадзюк лаўлю!



— Я скачу высока...
— Я хаджу далёка...
— Мы з табой сябры...
— ... з даўняе пары!

# ГАСПАДАР

Цудоўны двуспеў!

Ці не так?!

Вядома ж, так...

Заслухацца можна!

І Сарока мая спраўная заслухалася, кінула нават стракатаць.

Спытаеце: чаму яна спраўная?

Адкажу: бо ўмее жыць і па-чалавечы, і па-воўчы, і па-сарочы...

# Песенька
# спраўнай Сарокі

«Пры дарозе, пры сяле,
Пры цыганскай будзе,
Труся пры любым жытле —
Абы толькі людзі!

Там, дзе людзі — там яда;
Дзе яда — там шчасце!
Без яды ж — адна бяда,
Можна й лапкі скласці!..

І пры воўку, што хлусіць,
Труся я тым часам.
Воўк ад мяса адбяжыць,
Ну, а я — да мяса!

А калі ні грам яды,
Дык у хвілі тыя
Краду лыжкі я тады,
Чарачкі пустыя...

Красці можна тут і там
І хвастом, і бокам...» —
Гэта я сказала вам,
Спраўная Сарока.

# ГАСПАДАР

Так, сарока можа ўкрасці, але ж мала — столькі, што сама хвастом замяце...

Каб умеў красці мой Алень, той ого колькі папёр бы!

Але мой Алень не краў і не крадзе.

Ён стары ўжо...

Ён з радасцю сумуе па маладосці, бо ў маладосці засталося шчасце...

## Песенька старога Аленя

Шчасце я сваё спазнаў,
Грыз кару і венікі,
Ад аленіхі ўцякаў
Да другой аленіхі.

Рогі меў і капыты
(Дзе маланка — там і я!) —
Ажно гнуліся кусты,
Калі бег кустамі я!

Мог ляцець ва ўсе бакі
Цёплыя і сцюжныя.
Гналіся за мной ваўкі,
А дагнаць не здужвалі.

Біўся пад алешынай,
Біўся пад сасною я,
Каб толькі мне належала
Аляніца новая!

А цяперака-цяпер
Болей не свавольствую,
Бо ўжо ніякі я не звер,
А жывёла свойская.

Але шчасце я спазнаў
Мяккае, як сенейка —
Ад аленіхі ўцякаў
Да другой аленіхі!

# ГАСПАДАР

На старасці год няблага цешыць сябе такімі ўспамінамі!

Добра нервы супакойвае...

А яшчэ на старасці год самы раз урэзаць песеньку маёй угаворлівай Жабы!

Урэзаць тады, калі апануюць унукі кручаныя і сябе жабай немагушчай адчуеш...



## Песенька ўгаворлівай Жабы

Дзеткі, дзеткі залатыя,
Каб не сталася бяды,
То патрэбна, каб жывыя
Жабы поўзалі заўжды.

А як зробіце благое,
Жабу кінеце пад нож,—
Праз дурноцце праз такое
Вогненны пальецца дождж!

Каб дабра было даволі
І з дабром дабрэлі каб,
Не чапайце вы ніколі,
Не чапайце, дзеткі, жаб!

Бо інакш у вашым лёсе
Жабін застанецца лёс,
І барадаўка на носе
Сядзе большая за нос!

# ГАСПАДАР

Такая песенька павінна імгненна ўцішыць, угаманіць, нават напалохаць раздураных дзетак; павінна ж навучыць іх, што можна рабіць, а чаго няможна...

А калі не ўцішыць, не ўгамоніць, не напалохае і не навучыць, спытаеце?

Ну, калі такое станецца, то тады параю вам да ўгаворлівай Жабы дакупіць яшчэ і смярдзючага Тхара!

Вельмі моцная па выхаваўчым уздзеянні цацка!

## Песенька смярдзючага Тхара

Вам няцяжка здагадацца,
Дзе вышукваю нару,
Дзе і як люблю хавацца,
І што жэрці я жару!

І няцяжка вам даўмецца,
І дацяміць да таго:
Добра ад чаго жывецца
І нядобра ад чаго!

Вам вядома ўсё, вядома,
Бо вы людзі — не звяры.
А найболей вам вядома,
Чым адметныя тхары!..

Хто ж не ведае пра гэта,
Дык адразу, не здаля,
Не хаваючы сакрэтаў
І без лішняга ля-ля

Раскажу вам, як палюю:
Ціха, нішкам, неўпрыцям
Кучку навалю малую,
А смуроду дам дык дам!

І куратнічак атручан
Ад сцяны і да сцяны...
Кажуць мне, што я смярдзючы, —
Гэта лепей, чым дурны!

# ГАСПАДАР

Вочы вашы заблішчалі!

Гэта добра.

Яны заблішчаць яшчэ болей, калі прапаную вам выпешчанага мяса-шкуркавага Труса.

А ведаеце чаму трус завецца трусом?

Скажу.

Даўно гэта было.

Неяк раз людзі на пакошы растрасалі-трусілі траву і прыгаворвалі дзеля рытмічнай забаўкі: трус, трус, трус...

Тут нейкі звярок выбег з лесу і пачаў раструшаную траву есці.

«Во! — усміхнуліся тады людзі. — Трус пачуў нас і прыбег!»

## Песенька мяса-шкуркавага Труса

У клетцы хоч, а ці не хоч,
А ўсё адно быць давядзецца!
У клетцы я і дзень, і ноч,
І добра мне жывецца ў клетцы.

І не баліць мне галава,
Бо ў клетцы ж усяго загуста:
Ляжыць зялёная трава,
Ляжыць і морква, і капуста.



Трусагадовец вам любы
Пра тое скажа і заўсёды,
Што не абы я там рабы,
А мяса-шкуркавай пароды.

Хто б ні карміў — Кастусь, Пятрусь...
Як толькі кіндзюшок напоўню,
Тады люблю я Беларусь
Усёй трусінаю любоўю!

# ГАСПАДАР

Сапраўды, пад’еўшы, Бацькаўшчыну мы любім, але па-рознаму — хто трусінаю любоўю, а хто вераб’інаю; хто мяса-шкуркава нашу Беларусь любіць, а хто й жаласліва...

Я маю жаласлівага Вераб’я, якому добра бывае летам і вельмі цяжка зімою.

Пляшнік (той, хто пляшкі збірае) таксама можа пра сябе гэтак праспяваць...

## Песенька жаласлівага Вераб'я

Лета цешыць, а па леце
Страх мяне ўсяго трасе.
Гэта ведаюць і дзеці,
І дарослыя ж усе.
Я скачу і там, і тута,
Толькі радасці няма —
Пачынаецца пакута,
Як надарыцца зіма!

Песню я адну пяю
У двары халодным:
Памажыце вераб'ю,
Верабей — галодны!
Не мяшок з насеннем ці
Торбу, а зімою
Хоць бы зернетка знайсці
Дробнае якое!

Пры палацы і пры хаце,
Дзе мацней, а дзе цішэй —
Доўга мне так наракаці,
А дубець яшчэ даўжэй!
І прасіцца ў Зюзі злога:
«Зюзя, Зюзя, не марозь!..»
Саламянага ж нічога,
Толькі шыфернае скрозь!

Песню я адну пяю
У двары халодным:
Памажыце вераб'ю,
Верабей — галодны!
Не мяшок з насеннем ці
Торбу, а зімою
Хоць бы зернетка знайсці
Дробнае якое!

Каб хоць як застаўся цэлы,
То з дамоў для маладых
І з дамоў для састарэлых,
І з макдональдсаў усіх,

І ядальняў-рэстаранаў
Дайце ж, каб і еў, і піў —
То за гэта вам старанна
Я падзякую: жыў-жыў...

Песню я адну пяю
У двары халодным:
Пamажыце вераб'ю,
Верабей — галодны!
Не мяшок з насеннем ці
Торбу, а зімою
Хоць бы зернетка знайсці
Дробнае якое!



# ГАСПАДАР

Зрэшты, мой Верабей выжыве, не загіне.

Ён жвавы.

Яго хоць у запаленую печ закідай — вылеціць!

Прадаць Вераб'я — малы клопат.

Бусла таксама.

Мой Бусел — патрыятычны!

Вы яго купіце імгненна!

## Песенька патрыятычнага Бусла

Кожны ведае, што Бусел
З галавы да брушка
Сімвал роднай Беларусі —
Вось якая птушка!
І яе шануюць людзі
З любасцю найсамай...
Тых людзей, якія любяць,
Я люблю таксама.

У народзе-агародзе
Чаўпата чаўпецца,
А ў прыпеўцы гарадзецкай
Пра мяне пяецца:
«Бусько-клечко,
Знясі мне яечко,
І не белэе, ні тэ,
А яечко золотэ!..»

Кожны бацькаўшчыну славіць,
Калі зразумее:
На чужыне сонца паліць,
На радзіме грэе!
На Палессі ў родным полі,
У балоце родным
Так ці гэтак, а ніколі
Я не быў галодным!

У народзе-агародзе
Чаўпата чаўпецца,
А ў прыпеўцы гарадзецкай
Пра мяне пяецца:
«Бусько-клечко,
Знясі мне яечко,
І не белэе, ні тэ,
А яечко золотэ!..»

Да цяпла ляцеці мусіш,
Да чужога лета.
Добра там... На Беларусі ж
Усё роўна лепей!

Тут усё пяе-клякоча;
Тут на жабе жабка;
Тут дзяўчыне, як захоча,
Прынясу дзіцятка!

У народзе-агародзе
Чаўпата чаўпецца,
А ў прыпеўцы гарадзецкай
Пра мяне пяецца:
«Бусько-клечко,
Знясі мне яечко,
І не белэе, ні тэ,
А яечко золотэ!..
Бусько-клечко,
Знясі мне яечко,
Тобе два, а мне однэ,
Коб садзеў у кубле!..»

# ГАСПАДАР

Не, Бусла прадаваць не буду, пакіну сабе.

Усё ж такі ён патрыятычны.

Ды і ў краме павінна нешта застацца!

Астатнія ж цацкі вашы — і галодны Воўк, і баязлівы Барсук, і разумная Варона, і злы Сабака, і няшчасны Казёл, і задаволены Певень, і незалежны Зубр, і рахманы Конь, і памяркоўны Мядзведзь, і два Мядзведзікі, і дурны Баран, і жыццярадасны Асёл, і палахлівы Заяц, і заклапочаны Кот, і гуляшчая Кошка, і добрая Мышка, і мудрая Кошка, і зладзеяваты Ліс, і «абычная» Свіння, і шчаслівы Бабёр, і хітрая Сава, і свойская Качка, і дзікая Качка, і крыўдлівы Вожык, і прыязная Вавёрка, і спраўная Сарока, і стары Алень, і ўгаворлівая Жаба, і смярдзючы Тхор, і мяса-шкуркавы Трус, і жаласлівы Верабей...

Так, гэтыя цацкі вашы!

Хапайце, набывайце — калі не сёння, то заўтра.

А пакуль што зачыняюся.

І ў цацачных крамах бывае перапынак...

## Заключная песенька Гаспадара

Прадаў ці не прадаў,
Затое даў рэкламу,
Каб кожны ведаў, знаў
Пра «Цацачную краму».
Каб вы маглі адчуць:
У цацак столькі сілы,
Што ад калыскі йдуць
За намі да магілы!

Людзі, людзі дарагія!
І малыя, і старыя,
Вы заўжды, як цацкі тыя —
Завадныя і жывыя.

Усё нам Бог прынёс
І, як работнік хвацкі,
Каню дае авёс,
А чалавеку — цацкі.

І ўсё дае зараз,
Канца няма і меры,
Таму ўсяго ж у нас
Да чорта, да халеры!

Людзі, людзі дарагія!
І малыя, і старыя,
Вы заўжды, як цацкі тыя —
Завадныя і жывыя.

Каму багацце мець;
Каму іграць у драме;
Каму ў турме сядзець;
Каму сядзець у краме...
А Бог усім дае
Параду па-сваяцку:
Заўсёды ж у свае
Гуляць патрэбна цацкі.

Людзі, людзі дарагія!
І малыя, і старыя,
Вы заўжды, як цацкі тыя —
Завадныя і жывыя.

*27 снежня 2003*

**З м е с т**

## <u>Сцісла пра аўтара:</u>

Леанід Дранько-Майсюк –
нарадзіўся 10 кастрычніка 1957 года ў Давыд-Гарадку. Скончыў Літаратурны інстытут (Масква). Служыў у Савецкім войску. Працаваў на заводзе слясарна-мантажнага інструменту (Давыд-Гарадок) і ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" (Мінск). Жыве ў Мінску.
Кнігі: "Вандроўнік" (1983), "Над пляцам" (1986), "Тут" (1990), "Акропаль" (1994), "Стомленасць Парыжам" (1995), "Гаспода" (1998), "Места і свет" (2000), "Паэтаграфічны раман" (2002), "Вершы. Каханне. Проза" (2003), "Белая вежа У сааўтарстве з Ю.Кабанковым (2004).

*Літаратурна-мастацкае выданьне*

**Леанід Дранько-Майсюк**

**Цацачная крама**
*Кніжка для вялікіх і малых*

Бібліятэчка часопісу "Дзеяслоў"
Выпуск 6

Рэдактар *Барыс Пятровіч (Сачанка)*
Мастак *Генадзь Мацур*
Вёрстка *Людміла Зубец*
Партрэт аўтара *Мюр Фарыдовіч*
Фота на вокладцы *Глеб Лабадзенка, Андрэй Наліва*

Адказны за выпуск *Уладзіслаў Сілянок*

Здадзена ў набор 20.11.2007 г. Падпісана да друку 8.01.2008 г.
Фармат 84x108 $^{1}/_{32}$. Папера афсетная. Друк афсетны.
Аб’ём — ул.-выд. арк. Наклад 1000 асобнікаў. Заказ №

Выдавецтва "Медысонт".

Надрукавана ў друкарні СТАА “Медысонт”,
ліцэнзія №02330/0056748 ад 22.01.04.
220004, Менск, вул. Ціміразева, 9.